# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

№ 6 (571) ГОД XII 5 ЛЮТАГА 1967 г. ЦАНА 60 гр.


У НУМАРЫ У НУМАРЫ



## БГКТ

### СПРАВЫ АДДЗЕЛА І ВЫДАВЕЦКІЯ

*Апошняе пасяджэнне Прэзідыума ГП (адбылося 18.I.1967 г.) прысвяціла найбольш часу абмяркоўцы дзейнасці гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку. Старшыня яго, Кастусь Масальскі, злажыў справаздачу з дзейнасці, у якой апрача дасягненняў моцна акцэнтаваў цяжкасці, якія сустракае аддзел у сваёй працы, падкрэсліваў патрэбу большай дапамогі аддзелу з боку Прэзідыума, а таксама штатных працаўнікоў ГП, даказваў неабходнасць штатнага працаўніка ў гарадскім аддзеле. Усе пастулаты дакладчыка і членаў Прэзідыума аддзела вырашана рэалізаваць. Члены Прэзідыума аддзела на рабоча абмяркуюць з сакратаром ГП спосабы іх выканання.*

*У другой частцы свайго пасяджэння Прэзідыум ГП разглядаў выдавецкія справы. Пастаноўлена выдаць у гэтым годзе: зборнікі вершаў Алеся Барскага, Віктара Шведа і Івана Чыквіна, навуковы зборнік, літаратурны альманах, беларускі каляндар на 1968 год і рэпертуарную кніжку для драмгурткоў.*

*Прэзідыум ГП вырашыў прыняць штатнага працаўніка для гарадскога аддзела ў Беластоку, а таксама штатнага працаўніка-спецыяліста для беларускага этнаграфічнага музея БГКТ у Белавежы.*

### У 75-УЮ ГАДАВІНУ Б. ТАРАШКЕВІЧА

*У нядзелю 22-га студзеня ў найбольшай зале ГП адбылося ўрачыстае пасяджэнне (акадэмія) прысвечанае 75 гадавіне з дня нараджэння Браніслава Тарашкевіча — правадыра 100-тысячнай Беларускай работніцка-сялянскай «Грамады».*

*На гэтую ўрачыстасць прыйшло таксама шмат былых грамадаўцаў і былых членаў ТБШ (Таварыства беларускай школы). Звяртаў увагу прысутных вялікі партрэт Браніслава Тарашкевіча, які вісеў на чырвоным палотнішчы. Аб слаўным жыццёвым шляху Браніслава Тарашкевіча, аб рэвалюцыйнай дзейнасці і аб заслугах яго перад беларускім народам, у тым ліку як выдатнага вучонага, філолага, аўтара «Беларускай граматыкі», расказаў у сваім дакладзе член Прэзідыума ГП БГКТ, галоўны рэдактар «Нівы» Георгій Валкавыцкі. Пасля акадэміі быў паказаны савецкі фільм пад загалоўкам «Растраляны на світанні».*

(мх)

## ЛЁС СЯМ'І ПЕРАВОЗКІНЫХ

З Брэста ў Навазыбкаў да роднай мамы Валерыя Перавозкіна пайшла тэлеграма, што мы ўжо ў дарозе. У Гомелі прышлося нам закампенсіраваць білеты на другі цягнік. На станцыі работніца, якая прыняла нашы білеты, паглядзела на іх і кажа:

— Ага, вы ў Навазыбкаў. Там вас ужо чакаюць.

Праваднік вагона, у якім давялося нам адпраўляцца з Гомеля, адразу запытала:

— А каторы з вас гэты загублены, рускі?

Кіўком галавы паказваю на Валерыя.

— Значыць мы землякі, — звяртаецца яна да майго спадарожніка. — Я таксама навазыбкаўская. Там ужо чакаюць на вас. Нават аж з Масквы прадстаўнікі цэнтральнага тэлебачання прыехалі.

Ад дзядзькі Рыгора Ягоравіча Валерый папаў у абдымкі сваёй мамы.

— Валерка, сыночак мой, родненькі, сокал ты мой! — праз слёзы заводзіла старэнькая, крыху ўжо прыгорбленая жанчына, і без памяці цалавала яго ў шчокі, у вочы, у губы. Рукі ёй трасліся, і ад усхвалявання паўтарала толькі імя свайго сына, які ў яе памяці астаўся аднагадовым, кучаравым, беленькім, вясёлым хлопчыкам.

Валеры таксама не стрымаўся. Па яго шчоках пацяклі слёзы. Другія сваякі, якія прыйшлі прывітаць госця з далёкай Польшчы, ледзь адарвалі маці ад сына. Быў тут і брат, Мікалай, які загадзя прыехаў з Мінска.

Прадстаўнікі гарадскіх улад — гаркома і гарвыканкома — папрасілі нас у аўтамашыны. Сярод шматлюднага натоўпу ідзе маці са сваімі сынамі, якіх так устойліва шукала і ўрэшце найшла.

### СУСТРЭЧА

Збігнеў Лапінскі (першы справа) са сваёй маці Аляксандрай Перавозкінай і аўтарам рэпартажа сярод навазыбкаўскіх піянераў.

Гэтыя добразычлівыя інфармацыі яшчэ больш узмоцнілі хваляванне Валерыя. Ён не мог усядзець на месцы, часта выходзіў на калідор, каб закурыць ужо няведама якую папяросу. І гаварыў:

— А як жа я пазнаю яе? Яна ж старэнькая хіба зусім, праўда?

І вось цягнік спыняецца на станцыі ў Навазыбкаве. Перон запоўнены народам. Ярка гараць фары апаратараў маскоўскага тэлебачання. Валеры просіць мяне, каб я выходзіў першы. Ён сам на хвіліну астаецца яшчэ на ступеньках вагона. Позіркам шукае гэтай жанчыны, якую дагэтуль ведаў толькі з лістаў, для якой прывёз і сябе, і падаркі, букет чырвоных гваздзікаў. Аб'ектывы фота і кінаапаратаў накіроўваюцца на нас. Хтосьці крычыць:

— Ваня, браце мой, родненькі! — і, праціснуўшыся праз натоўп да Валерыя, моцна абнімае яго рукамі. Гэта Валерыкаў дзядзька, а родны брат яго бацькі, Івана Перавозкіна. Потым Рыгор Ягоравіч гаварыў:

— Калі пабачыў я на ступеньках вагона яго, Валерыка, у мяне перад вачыма, быццам жывы, з'явіўся яго родны бацька. Менавіта такім быў ён, калі смерць спыніла яго жыццё.

— Пасля смерці мужа, — гаварыла пазней, — былі яны адзінай маёй радасцю. Я чула сваім сэрцам, што яны недзе жывуць. Я хацела толькі аднаго: каб перад смерцю хаця адзін раз пабачыць сваіх сыноў. Для іх я жыла.

І толькі за святочным сталом, калі ўжо поўнай шклянкай быў споўнены першы тост за сустрэчу маці з дзяцьмі, можна было выявіць свае ўражанні і бліжэй пазнаёміцца з усімі сваякамі і родзічамі, якіх у Валерыя аказалася ў Навазыбкаве вельмі многа. А кожны з іх запрашаў да сябе ў госці.

Сустрэчы пачаліся ўжо першага дня. Вечарам папрасілі нас у Завадскі клуб культуры, на другі дзень — у рэдакцыю мясцовай раённай газеты «Маяк» і ў нейкую школу. Пабывалі мы ў Навазыбкаўскім гаркоме КПСС і двойчы ў студэнтаў педінстытута. Усе цікавіліся лёсам Валерыя і кругом адчувалася вялікую і шчырую сардэчнасць у адносінах да яго. Агенцтва АПН гісторыю

(Працяг на стар. 4)

Сустрэчы з землякамі

## Паўгода ў Афрыцы

Федзю Бурылу з Левак, што ў Бельскім павеце, сустрэў я на балі арганізаваным праз Беларускае таварыства ў Варшаве. Федзя Бурыла танцаваў, смяяўся і спяваў; у размове любіў час ад часу ўкідаць англійскія словы. З размовы даведаўся я, што Федзя Бурыла ў мінулым годзе прабыў праз 7 месяцаў у афрыканскай краіне — Гане. Зацікавіў мяне Федзя, і я яго запытаў:

**— Як трапілі вы ў гэтую далёкую афрыканскую краіну?**

— Працаваў я, — адказвае Федзя Бурыла, — дзе і цяпер працую — у прадпрыемстве Энергамонту зваршчыкам. Да нашага прадпрыемства звярнулася Цэнтраля экспарту камплектных прамысловых аб'ектаў (так званы Цэкап), каб прынялі мы ўдзел у мантаванні цукраварні ў Гане. Дырэкцыя нашага прадпрыемства згадзілася, і мы паехалі.

**— Якія былі вашыя першыя ўражанні пасля прыбыцця на афрыканскі кантынент?**

— Першыя ўражанні ўсё ж такі кліматычнага характару. Самалёт, якім мы прыляцелі ў сталіцу краіны — Акру, меў кліматычныя ўстройствы і ў ім не адчувалася Афрыкі. Толькі пасля пасадкі, калі вышлі з дзвярэй самалёта, ударыла вельмі цёплае, а адначасова нейкае гнілое паветра. Я пачуўся неяк слаба, паглядзеў на сяброў — відаць было, што яны гэтае ж самае адчулі. На месца будовы, да мясцовасці Асутсуара, выехалі мы ноччу. Па дарозе некалькі разоў затрымліваліся ў бушу. Упершыню пачуў я разнатонныя галасы афрыканскай ночы, якія зрабілі на мяне вялікае ўражанне.

**— А якія былі ўмовы працы?**

— Працавалі мы даволі многа: па 10 гадзін у дзень. Першыя тры месяцы было нават цяжкавата — усё яшчэ не маглі прызвычаіцца да мясцовага клімату, потым аднак было лягчэй.

**— Ці мелі вы магчымасць сустракацца з мясцовым ганскім насельніцтвам?**

— О, вельмі часта. Амаль увесь свабодны ад працы час праводзілі на пешых экскурсіях па акалічных негрыцянскіх вёсках.

**— Якія вашыя ўражанні з гэтых экскурсіў?**

— Негрыцянскае вясковае насельніцтва жыве ва ўмовах вялікага прымітывізму і беднасці. Зрэшты, і не можа быць інакш, калі працуюць тут толькі жанчыны.

**— Хіба ж і мужчыны нешта робяць?**

— Што яны там робяць! Тэарэтычна — займаюцца рыбнай лоўляй і паляваннем, у практыцы аднак — ляжаць як сланы, а ўвесь цяжар гаспадаркі на плячах жанчын.

**Федзя Бурыла сярод маладога пакалення негрыцянскай вёскі.**

**— Ці негры ў Гане надалей ходзяць голыя?**

— Вельмі рэдка. Найчасцей апранаюцца ў нейкія японскія ткані: у вёсцы апранаюць традыцыйна толькі ніжнюю частку цела, у горадзе ж — звычайна, па-еўрапейску.

(Працяг на стар. 5)

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 98


# ЗЛАДЗЕІ І ХЛОПЧЫК

Грузавая машына «Шкода» з галавастаю шафёркаю гудзела, бы вялізны чмель. Ехалі ёю беластоцкія зладзеі красці лес.

Паабапал смутнела поле, сіраделі дзічкі на межах. Марусіў дождж. Прасторныя шыбы абселі кропелькі.

Зладзеі хвалілі пагоду.

— Чуюся, як у мамы пад спадніцаю, — прабубніў адзін з іх і выскаліў зубы.

Гэта не спадабалася старому.

— Ы, ты, — замармытаў стары і мацней атуліўся плашчом, як бы збіраючыся думаць аб нікчэмнасцях. Шафёр узяў зашмальцаваную анучку і праціраў шыбу. Цяклі брудныя рагі. Цягнула халадам, а ў нос забіваў цёплы смурод ад матора.

— Закурым, — азваўся мужчына, што сядзеў за плячыма шафёра. Ён выняў дарагі партсігар, частаваў усіх. Усіх было трох, не лічачы шафёра. Шафёр пусціў на момант кіраўніцу і прыкурыў сваімі запалкамі.

Мужчына, што частаваў папяросамі, загаварыў голасна, каб пачулі:

— Іванюка выпусцілі.

— Не можа быць?! — рохкнуў трэці мужчына, што сядзеў на пярэднім сядзенні. — Іванюка засудзілі на «дажывоце», пане кіроўнік... пане кіроўнік, кажаце: выпусцілі яго... як жа так удалося яму, пане кіроўнік... — лапатаў ён і стаўбунеў.

— Выпусцілі, — паўтарыў той жа.

Шафёр перастаў хмурнець, хацеў штосьці сказаць, але мужчына спераду здзіўляўся, перабіваў гутарку.

Умяшаўся стары:

— Пане, цяпер турмы нястрашныя.

— Я сядзеў тры месяцы ў следчым арышце, — уставіў сваё шафёр. — Сядзеў з дырэктарам. Павялі яго на суд. Жарнулі яму пятнаццаць год. Дырэктар здзеціпеў і крычаў: жонка мая харошая змарнуецца! А я тлумачу адурэўшаму дырэктару: пане, слухайце пан стражнікаў і хвалі іх, а пасядзіш не больш, чым пяток.

— Паказвай стражнікам, што ты стаў ужо свядомым чалавекам, — дадаў уласнік дарагога партсігара ды зарагатаў, а за ім усе. Хіхікаў стары.

Шаша кончылася, уехалі ў лес. Напераздзе гультаявата пятляў маўклівы гасцінец. У трынаццатым квартале «Шкода» спынілася, павярнула направа і папаўзла ў нару бакавой дарогі, ламаючы павіслае голле.

З дарогі зыйшоў хлопчык з карзінаю грыбоў. Ён стаў і глядзеў. У яго вачах была дабрата.

Зладзеі паглядзелі неспакойна на хлопчыка і паехалі яшчэ хутчэй.

**Сакрат Яновіч**

**ХОДЗІЦЬ СОНЦА**

**На шырокіх палях**
**За гародамі**
**Ходзіць сонца**
**Зялёнымі сходамі**

**Ходзіць сонца**
**Па родных прыгорках**
**У каляровых**
**Квяцістых пацёрках**

**Пры абрэчку**
**Лугамі палосымі**
**Ходзіць сонца**
**Нагамі босымі**

**В. Асіповіч**

# УСПАМІН ЗІМЫ З МАТЫВАМ СМУТКУ

Зіма ліхая, злючая як ноч —
У людзей агню на радасць не скарынкі —
Па вуліцах танцуе басанож
Яна, пад зыкі ветранае скрыпкі.

Ні радасці, ні плачу ў вёрстах снегу —
Каму я, госць, патрэбны ў гэту пору —
Сняжынкі ў заспы падаюць з разбегу
І не падняцца ім ніколі ўгору.

Мяцеліца ўсё выведала: прападу я —
Не папрашу ў людзей адкрыць мне дзверы —
Прырода на прыроду злуе,
Што ў прыродзе ўсё няма даверу.

**І. Чыквін**

# ПАЭТЫЦКІЯ ПАРАСТКІ

Сярод яркіх, шматкаляровых кніжак яна вылучаецца скромным графічным афармленнем. Як бедная дзяўчына, якая раптам апынулася сярод багатых і стройных. Белы проставугольнік вокладкі і на яго фоне зялёныя літары: «Kształty myśli» («Кшталты думак»). А ніжэй: «Беласток, 1966 г.»

Гэта паэтыцкі зборнік-альманах. Паявіўся ён дзякуючы прыхільнасці і грашовай падтрымцы Беластоцкага таварыства культуры і Ваяводскага праўлення Саюза вясковай моладзі. Да друку рыхтавала яго групка маладых паэтаў энтузіястаў: Ян Чыквін, Эдвард Ярашэвіч і Сакрат Яновіч. Гэта дзякуючы іх устойлівасці і ахвярнасці на звыш 100 старонках друку 15 аўтараў згуртаваных у Беластоцкім аддзеле карэспандэнцыйнага клуба маладых пісьменнікаў знаёмяць чытачоў са сваімі творчымі магчымасцямі. Гэта іх першае калектыўнае выдавецтва. Паявіліся яно якраз тады, калі на старонках «Газеты Беластоцкай» закончыліся заўзятыя спрэчкі аб нашай рэгіянальнай літаратуры, а дакладней аб тым, што яе няма.

Цікава тады ведаць, што са сваіх творчых запасаў рэкамендуюць маладыя людзі, якія намагаюцца завяваць сабе месца сярод стваральнікаў прыгожага. Цяжка адназначна адказаць на гэтае пытанне. Аўтараў 15, і кожны рэкамендуе штосьці сабе ўласцівага. З некаторымі сярод іх сустракаліся мы ўжо на літаратурных старонках «Нівы» і другіх беларускіх зборнікаў. Гэта: Яша Бурш, Ян Чыквін, Сакрат Яновіч, Эдвард Ярашэвіч, Аляксей Казберук і Віктар Швед. Цяпер яны адсланяюць другую палавіну свайго творчага аблічча. Амаль усе яны дэб'ютуюць на польскай мове. І на гэты момант асабліва хачу звярнуць увагу. Тым больш, што ў альманаху знайшліся творы Сакрата Яновіча на беларускай мове. Яны вылучаюцца і па форме, і па змесце. Гэта паэтыцкая проза, аб якасці якой нядаўна трапна пісаў Мікола Гайдук. Тым, хто не ведае беларускай мовы, іх зразумення наблізіць пераклады Эдварда Ярашэвіча. Шкада толькі, што перакладчык пераважна абмяжаваўся да механічнай, а не творчай перадачы зместу. Таму мастацкая вартасць перакладу наогул не раўняецца з арыгіналам.

Усе аўтары (апрача Яновіча, Шведа, Крысціны Саланевіч і некаторых вершаў Чыквіна) кшталты сваіх думак зачыняюць у т.зв. сучасную форму. Цяпер так пішуць амаль усе паэты і нічога дзіўнага, што беластоцкія маладыя пісьменнікі прызнаюць першынство гэтай форме. Не лёгка тады разабрацца ў змесце і творчым сэнсе паасобных вершаў. Адно можна сказаць адкрыта: паэтыцкіх шэдэўраў дарэмна шукаць у гэтым зборніку. Часам атрымоўваецца толькі пустая сечка са слоў. Ніхто аднак не павінен патрабаваць шэдэўраў у тых, хто на цяжкім творчым шляху ставіць свой першы крок. Хопіць, калі знойдзецца хаця адзін твор, які без нацяжкі можна назваць сапраўдным вершам. А гэта адносіцца па-мойму да ўсіх аўтараў. У многіх сярод іх можна выявіць па некалькі добрых вершаў.

Сучасная паэзія — гэта перш за ўсё арыгінальная і трапная, але зразумелая метафара. У аўтараў зборніка «Кшталты думак» бывае з гэтым па-рознаму, часта аднак не найлепш. Калі Яновіч піша: «...пойдзем сонца спатыкаць у полі жытнёвым...» або «...лістапад шахаціць пад нагамі ліствою...» — перад вачыма ўстаюць цэлыя замалёўкі. Калі аднак чытаем: «...слова пра цябе хачу сказаць паспела пульсуе як ножкі дзіцяці...» або: «...хаджу за табой бяздоннымі вачыма...» (пераклад з польскага) — тады прынамсі я нічога не бачу. Гэта з верша Яна Чыквіна. Ёсць і ў яго вершах дасканалыя метафары, каля б такія: «...кірмаш гэта агароды сашліся да рук ля латокаў» або: «...смутак бадзяецца на сабачым хвасце...»

Паэтыцкі зборнік-альманах даказаў наяўнасць літаратурнага маладняка на Беласточчыне. Што з яго вырасце — час пакажа. Напэўна многія сярод аўтараў, якія ўпершыню рэкамендуюць свае творы, патрапяць завяваць сабе трывалае месца ў польскай сучаснай літаратуры. На больш аб'ектыўную ацэнку трэба аднак пачакаць да часу, калі паявіцца хаця другі альманах твораў гэтых аўтараў, якія рэкамендуюць свае вершы зараз у зборніку «Кшталты думак».

**В. Рудчык**

* * *

Ляжу я на зямлі
адным бокам гляджу ў яе нетры
а другім узіраюся ў неба
плыве праз лес зялёнае паветра
а ў зямлі цвітуць карэнні
крыніцы ёе грудзі точаць
і я хоць зоркі змятаў з неба на
небасхілы
не знаю што такое заўтра
не ведаю істоты сення
і павярхоўна знаю ўчора
і не хачу ўсяго я ведаць
ці ж я тады пісаў бы вершы
жыцце!
малюся будзь загадкай
бяда калі калека зломіць кулю
ці паўсляпы дзесь згубіць акуляры
паэт не выжыве без мараў
і стане ў месцы не кранецца
нібы дзіця заплача ў страсе
як згубіць руку сваёй мамы
якое шчасце мець айчыну
і легчы у зялёных травах
і вокам у зямлю ўзірацца
а другім вокам у прасторы
раздвоенасць — адзінствам шчасця

**Алесь Барскі**

# НОВЫ ГОД

**Не думай, што жыццё можна пачаць ад нова. Дарма, што праз хвіліну Новы год. Не ў сілах чалавека прошлае забыцца. Не зменіць почырку нам свежанькі сшыток. О! Гэты лабірынт задуманы на рэдкасць спрытна. Скольki б не блытаў — мусіш ісці ўперад. Хочаш вярнуцца? Ты ж не скруціш ніткі пражытых дзён назад у клубок. І кінуць не адкінеш. Бо павуцiннем уражань яна ўжо тваю душу мо муху апляла. О не, браток! Памылак лет пражытых не скінеш сёння так, як крошкі са стала. Чаго задумаўся? Глядзі! Ужо шампанскае наліта. Праз хвіліну ж распачнецца Новы год.**

**Спаткнуўшыся раз пару абадраўшы душу з цяжарам успамінаў на плячах — веру — не лёгка ўгору прабівацца. Лягчэй аднак, чым тым, што падвязалі крыллі па тое толькі, каб не падаць, не змыліцца.**

**Смялей, браток! Пара за чаркі брацца. Ну, п'ем! За лепшы Новы год.**

**Юрка Геніуш**

# КОНКУРСЫ ГП БГКТ

**Галоўнае праўленне Беларускага грамадска - культурнага таварыства ў Беластоку аб'яўляе конкурс**

**«СТВАРАЕМ РЭПЕРТУАР»**

**Мэтай конкурсу ёсць забяспечыць самадзейныя мастацкія гурткі (драматычныя і эстрадныя) рэпертуарам, які будзе цесна звязаны з сучаснай праблематыкай, перад усім вясковай на беларускай мове.**

**У конкурсе могуць прымаць удзел на роўных правах члены аб'яднання «Белавежа», як і не члены гэтага аб'яднання. Працы перапісаныя на машынцы і адзначаныя ўласнымі сімваламі (знакамі) з далучаным закрытым канвертам (адзначаным сімвалам), у якім будзе імя, прозвішча і адрас, прысылаць па адрасу ZG BTSK Białystok ul. Warszawska Nr 11 да дня 1 чэрвеня 1967 г.**

**Колькасць прац і аб'ём не абмяжоўваецца.**

**Прадбачваюцца наступныя ўзнагароды:**

**I — 1600 ЗЛ.**
**II — 1300 ЗЛ.**
**2 — III ПА 800 ЗЛ.**

**Камісія засцерагае сабе права іншага падзелу ўзнагарод.**

**АГЛЯДЫ САМАДЗЕЙНАСЦІ**

**Галоўнае праўленне БГКТ паведамляе, што ў гэтым годзе адбудуцца паветовыя агляды самадзейных драматычных і эстрадных калектываў з беларускім рэпертуарам у тэрміне да 15 красавіка г.г.**

**Агляд цэнтральны прадбачваецца ў пачатку мая 1967 г. Першыя тры месцы будуць узнагароджаны наступна: на аглядах паветовых : 800, 600 і 400 зл.; на аглядзе цэнтральным: 1200, 900 і 700 зл.**

**Просім кіраўнікоў калектываў падаваць заявы ў аддзелы БГКТ у паветах да канца лютага г.г.**

**Кіраўнік культурна-асветнага аддзела ГП БГКТ**
**М. Лобач**

# ОЙ, НЯМА, ЯК...

Ой, няма, як вясною
Пад кудравай вярбою
Прашаптаць да світання
Аб каханні з табою.

Ой, няма, як улетку
Ля дарогі на ўзмежку
Завіваць у вяночак
Сваё шчасце і кветкі.

Ой, няма, як увосень
Калі вецер прыносіць
Срэбнае павуцінне
Вэлюмам табе ў косы.

Ой, няма, як зімою!
Коні мчацца стралою.
З песняй едзе вяселле.
Ой, няма, як з табою!

**Ул. Гайдук**

# Жыццёвыя сцежкі

Ад шумлівай маёй Белавежы,
Ад хаціны сасновай бацькоў
Я прайшоў у жыцці многа сцежак
І гатоў у дарогу ізноў.

Скалясіў басанож зямлю-маці,
Зямлі сокі у жылы ўвабраў.
Не знайшоў у жыцці я багацця
Ды, прызнацца, яго й не шукаў.

На жыццёвых дарог каляінах
Шукаў сэрца, людской дабраты,
І знайшоў іх у родных мясцінах,
Таму родны куток мне святы.

І калі надта стомяцца ногі
Пасля многіх жыццёвых трывог
Хай апошняя сцежка-дарога
Прывядзе на бацькоўскі парог.

**Віктар Швед**



Вужака боа з'яўляецца сапраўднай атракцыяй для польскіх будаўнікоў.

(Працяг са стар. 1)

## Паўгода ў Афрыцы

**— А як успрымалі негры вашыя візіты ў іх вёсках?**

— Успрымалі нас вельмі прыхільна, амаль энтузіястычна. Узносілі нейкія заклікі на наша прывітанне, дзетварня бегла за намі, хапала нас за рукі, параўноўвала са сваімі і дзівавала, што такая розніца ў колеры.

**— Ці негры памагалі вам у пабудове фабрыкі?**

— Так.

**— Што можаце сказаць аб іх, як супрацоўніках?**

— Вельмі добрае. На будове яны працавітыя і паслухмяныя. Зразумела — гэта некваліфікаваныя рабочыя, якія ніколі не мелі нічога супольнага з працай у прамысловасці і таму можна было ім даручаць толькі найбольш нескладаныя, простыя заданні.

**— А што можаце сказаць аб Акры, сталіцы Ганы?**

— Перад усім гэта горад кантрастаў. Кідаецца ў вочы аграмадная розніца паміж у еўрапейскім стылі будаваным цэнтрам горада, дзе пражываюць багатыя негрыцянскія слаі, а ўбогімі старымі кварталамі горада, дзе пражывае негрыцянская бедната.

**— Ці згадзіліся б вы на такую паездку яшчэ раз, калі б вам запрапанавалі?**

— Ахвотна. Можа нават паеду ў Іран.

**— Тады будзьце нашым карэспандэнтам.**

— Калі паеду, ахвотна напішу нешта ў «Ніву».

Размова наша канчаецца. У зале прадаўжаецца баль. Гучаць галаслівыя песні і размовы на польскай, беларускай і ўкраінскай мовах. Мы з Федзяю гутарым па-леўкаўску. Федзя любіць пры тым час ад часу кідаць англійскае слаўцо, каб лепш аддаць каларытнасць гэтага яго падарожжа і гэтай своеасаблівай інтэрнацыянальнай сувязі, якая стварылася паміж Ганскай асадай Асутсур і вёскай Леўкі, што пад Бельскам.

**Ул. Паўлючук**

## ГАРАЧЫ ЧАЙ НА ПУНКТАХ СКУПУ

У адрас нашых ГС-аў, ПЗГС-аў маецца штораз больш слоў крытыкі. Трэба сказаць, што крытыкі справядлівай, якая ідзе не толькі ў адрас паасобныхураднікаў, але наогул дзейнасці цэлых калектываў паасобных адзінак. У цэнтры крытыкі ёсць перад усім пункты скупу жывёлагадоўлі ці збожжа. Здаецца, што ў некаторых выпадках вясковае жыццё апераджае тое, што прапануе ім вясковая спулдзельчасць. Напрыклад, людзі з аколіц Рыбалаў даўно перасталі хваліць ГС за сарганізаванне ў Рыбалах пункту скупу.

Дык у чым справа? Не, я абсалютна не за новы пункт. Мне разыходзіцца пра культурнае, здаровае абслугоўванне. Амаль усім вядома, што ўспамянутыя пункты знаходзяцца амаль у полі за забудаваннямі. Гаспадары сюды з'язджаюцца фурманкамі, стаяць у чарзе, доўга чакаюць. Зразумела, чакаюць больш усяго на дварэ ля фурманак. Пагода якраз не ўлічвае тарговых дзён і часта лье на іх дождж, абсыпае снегам, марозіць холадам. Людзі мёрзнуць і разграваюцца... гарэлкаю. Бо чым?

ГС-ы пабудавалі многа крамаў, паўстаюць клубы маладога гаспадара і т.п. Здаецца, што прышла чарга і на пункты скупу. Разыходзіцца пра тое, каб пры пунктах скупу жывёлагадоўлі **арганізаваць спецыяльныя прыёмныя** гаспадарам. Можна іх пабудаваць са зборнай канструкцыі (прэфабрыкатаў), а нават перарабіць са старога аўтобуса. Неабходным было б арганізаваць у гэтых прыёмных **буфеты з гарачым чаем і гарачай порцыяй каўбасы.** Здаецца, што многа маюць рацыі гаспадары, якія гавораць часта, што «паршука» дык я прывёз, але каб паабедаць, дык няма дзе і чаго.

Цэнтральныя ўлады вясковага гандлю як найбольш прыхільны да арганізацыі такіх прыёмных буфетаў. У Вроцлаўскім ваяводстве гэтая акцыя развіваецца. Думаем, што і ў нас ГС-ы і ПЗГС-ы адклікнуцца на нашу прапанову.

(Кара)

— падрыхтоўка спецыялістаў не толькі малачарскіх, але і сваяцкіх галін спажывецкага промыслу. Напрыклад, абсальвенты гэтага аддзялення будуць кантраляваць якасць прадукаваных мясных вырабаў, а не толькі малочных. Міма сваёй маладосці, школа мае традыцыі. Многія з абсальвентаў ужо кіраўнікамі малачарскіх прадпрыемстваў, іншыя паканчалі вышэйшыя школы. Але ёсць і такія, якія вярнуліся ў сваю родную школу, каб рыхтаваць новыя кадры. Між іншым, выкладчыкамі ў тэхнікум з'яўляюцца **мгр інж. Ніна Мойсак** і **Янка Ігнатовіч**. Штогод школа выпускае 50 абсальвентаў, а запатрабаванне ў тры разы большае.



Уступнае прасаванне сыравай масы пры вырабе эдамскіх сыраў.

### ПАЗАЛЕКЦЫЙНАЕ ЖЫЦЦЁ

Цяжка яго апісаць у так кароткім артыкуле. Існуюць тут фатаграфічны, рэцытатарскі, харавы гурткі, а таксама 10 гурткоў зацікаўлення з розных прадметаў. Развіваецца вучнёўская спулдзельня, а таксама парыкмахерскі пункт, які абслугоўваюць вучні парыкмахерскай школы. У галіне грамадскай дзейнасці ў тэхнікуме ёсць арыгінальныя думкі. Добраахвотныя гуфцы працы даўно былі вядомымі сярод школьнай моладзі. У мінулым годзе ў Малачарскім тэхнікуме паўстаў **першы ў Польшчы малачарскі гуфец працы.** Вельмі карысна з усіх бакоў. У малачарнях патрэбны ў ліпені і жніўні рабочыя, ёсць многа малака і ўрэшце сама моладзь вельмі многа карыстае, прывыкае да самастойнай працы. Моладзь тут ахвотная да працы. Каля 100 чалавек выказала ахвоту выехаць у часе канікул да гуфца, але паехала толькі 37 чалавек. У гэтым годзе будзе арганізаваных 8—10 гуфцаў, а не як у мінулым толькі 3.

**А. Карпюк**

фота аўтара

## ГАСПАДАР ПЕРАД УСІМ

— Гаспадар перад усім! — так можна сказаць аб пяцігадовым плане гаспадарчага развіцця Беластоцкага ваяводства, які ўхваліла IX сесія Ваяводскай рады нарадовай, што адбылася напярэдадні Новага года.

Вынікае ён не толькі з таго, што няма ў нас і не можа быць у нас праўдзівай вялікай прамысловасці, няма капітальняў. Ухваляючы такі план мелася на ўвазе, перад усім, вельмі нізкі ўзровень нашай сельскай гаспадаркі. Даволі сказаць, што ў сучасны момант гаспадары Беласточчыны ўжываюць усяго каля трыццаці кілаграмаў штучных угнаенняў на адзін гектар у год. Паўтараю, у год! Гэта, прынамсі, у пяць разоў менш, чым у гаспадароў іншых раёнаў Польшчы. Дадаю, што ў беларускіх вёсках Беласточчыны ўжываюць нават па пятнаццаць кілаграмаў штучных угнаенняў на адзін гектар у год! Гэта значыць, у два разы менш, чым іншыя гаспадары Беластоцкага ваяводства. А, здавалася б, так купляюць ды вырываюць сабе з рук гэтыя штучныя ўгнаенні...

У такой сітуацыі «падцягнуць» нашу сельскую гаспадарку хаця б да сярэдняга ўзроўню ў Польшчы з'яўляецца надта цяжкім заданнем. Таму невыпадкова большасць планаваных выдаткаў будзе накіравана на патрэбы сельскай гаспадаркі. За будучую пяцігодку ўдвая павялічацца выдаткі грошай на правядзенне меліярацыі, электрыфікацыі і механізацыі, бо гэтыя тры рэчы маюць рашаючы ўплыў на развіццё сельскай гаспадаркі — не гаворачы ўжо аб штучных угнаеннях, якіх будзе ў тры з паловаю разоў больш, чым цяпер.

Можна паставіць шмат запытанняў:

— Тэхніка будзе, штучныя ўгнаенні будуць, усяго будзе ўдвая, утрая, у чатыры разоў больш, але хто ўсё гэта купіць? Вядома, гаспадары павінны купіць, але ці захочуць? А, калі захочуць, дык ці будуць мець за што?

Можна даць і шмат адказаў:

— Тэхнікі і штучных угнаенняў патрэбна нам чым пабольш, бо без гэтага няма чаго і марыць аб добрых ураджаях. Паляпшэнне ўраджаяў абазначае павышэнне даходаў з гаспадарак і пашырэнне магчымасцей куплі тэхнікі і мінеральных угнаенняў. У выпадку, калі гаспадар не мае на гэта сродкаў, можа ўзяць крэдыт, грашовых крэдытаў многа і яны штогод застаюцца ў нас моцна нявыкарыстанымі.

Але ў нашых, беластоцкіх, умовах не крэдыт з'яўляецца першым варункам эканамічнага прагрэсу, але свядомасць гаспадароў. Мільёнавыя сумы крэдытаў штораз прападаюць. Менавіта, у гэтым своеасаблівы парадокс беластоцкай гаспадаркі, якая не адчувае недахопу фінансаў, а наадварот. З гэтай, між іншым, прычыны другое месца ў выдатках пасля сельскай гаспадаркі займаюць сумы прызначаныя на асвету. Моцна залежыць на развіцці сельскагаспадарчай асветы. Выходзіць на тое, што курсы гаспадарам іграюць першую ролю і ад іх шмат залежыць, ці не змарнуем грошай, прызначаных на развіццё Беластоцкага ваяводства, беластоцкай сельскай гаспадаркі. Нарастае фетыш агрáмінімума, так гэта можна назваць на свой, беластоцкі ўжытак.

Беластоцкае ваяводства характарызуецца вялікімі розніцамі ў гаспадарчым развіцці паасобных яго рэгіёнаў. Трэба ліквідаваць гэту розніцу, з агульнага бюджэту ваяводства цяпер толькі пятнаццаць працэнтаў сродкаў прызначаецца на сам горад Беласток, рэшту кіруецца ў, так званы, тэрэн. Гэта знамянальная рыса новай пяцігодкі нашага ваяводства, і нам, беларусам, пацяшаючая яна. На заканчэнне можна дадаць яшчэ, што будзе зроблена ўсё, каб запэўніць працу ўсім патрабуючым яе, асабліва, жанчынам. Натуральны прырост рабочай сілы пакрыецца з павелічэннем колькасці месц працы, новых месц працы, якія будуць створаны на працягу пяцігодкі. Асаблівую ўвагу звернецца на развіццё дробнай прамысловасці і рамесніцтва.

У малых мястэчках.

**Аляксандр Анташэвіч**

БЕЛАРУСІЯНА

## КУРАШКЕВІЧ АБ ДЫЯЛЕКТАХ БЕЛАРУСАЎ

Зацікаўленне вядомага польскага моваведа Уладзіслава Курашкевіча гаворкамі беларусаў Беласточчыны пачалося яшчэ да вайны. У 1939 годзе на аснове ўласных доследаў апублікаваў ён працу: Najważniejsze zjawiska językowe ruskie w gwarach między Bugiem i Narwią. (Sprawozdania Komisji Językowej Tow. Nauk. Warsz. t. XXXI. z II), а таксама карту гаворак паміж Бугам і Нарвай. З пасляваенных прац Курашкевіча на ўвагу заслугоўвае артыкул: Rozwój a na tle dyftongów i palatalizacji w dawnych gwarach ruskich Podlasia i Chełmszczyzny (Studia z Filologii Polskiej i Słowiańskiej T: III Warszawa 1958), а таксама Ukraińska dyspalatalizacja w gwarach Podlaskich (Z polskich Studiów Slawistycznych. Seria 2. Warszawa 1963).

У 1964 годзе Курашкевіч публікуе артыкул: „Tendencje białoruskie i ukraińskie w gwarach okolic Puszczy Białowieskiej" (Acta Baltyco-Slavica. T. I. Białystok 1964).

У гэтым артыкуле аўтар аналізуе гаворкі вёсак: Семяноўка, Нараўка, Белавежа-Сточак, Каменюкі, Шэрэшаў, Каменец Літоўскі, Шчырчэва. Аўтар сцвярджае, што ў аколіцах Белавежскай пушчы сутыкнуліся з сабою непасрэдна беларускія і ўкраінскія моўныя ўплывы, падчас калі далей на захад уплывы гэтыя разыходзяцца на поўдзень і поўнач, пакідаючы ў прамежку старыя архаічныя дыялекты пераходнага характару (асабліва на Бельшчыне з вымовай тыпу: ходіті, замест беларускага хадзіці, або украінскага ходыты). У заканчэнні артыкула аўтар сцвярджае, што гаворкі Белавежскай пушчы заслугоўваюць на асобнае манаграфічнае апрацаванне.

Гаворкамі Беласточчыны займаецца Курашкевіч і ў сваёй выдадзенай у 1963 годзе кніжцы: „Zarys dialektologii wschodnio-słowiańskiej".

Прыводзіць ён тут між іншым запісы гаворак з наступных беларускіх вёсак: Малешы, Ласінка, Арэшкава, Нараўка, Белавежа і Агароднікі. З іншых цікаўнасцей гэтай кніжкі варта аднатаваць сцверджанні аўтара адносна ўзнікнення беларускай мовы. Трактуе ён менавіта яе як пасіўны вынік узнікнення дзвюх іншых усходнеславянскіх моваў: рускай і ўкраінскай. На думку Курашкевіча на старой праeasкай моўнай стыхіі стварыліся перад усім два арыгінальныя моўныя цэнтры: рускі на поўначы і ўкраінскі на поўдні. Іх замацоўванне і пашырэнне адбывалася на працягу стагоддзяў: ад XIII да XVI. Тэрыторыі, да якіх уплывы ніводнага з гэтых цэнтраў не дайшлі, выдзеліліся гэтым самым як беларускі дыялект. На гэтым пра-рускім фоне даволі позна, бо на пераломе XV і XVI стагоддзяў развілася характэрнае для беларускай мовы дзеканне. Працэс фармавання ўсходнеславянскіх моваў вяжа Курашкевіч з палітычнай гісторыяй гэтых народаў. Далучаныя да кніжкі карты паказваюць супадзенне беларускіх моўных уплываў з межамі Вялікага княства Літоўскага.

(п)




У Турцыі кожны, хто служыць у іншаземца, называецца кавасам. Ёсць кавасы, якія прыбіраюць памяшканне, кавасы — краўцы, кавасы — шафёры і кавасы — кур'еры. Кавас — ніхто і нішто, і гэта заўсёды непакоіла мяне і абурала.

Я быў кавасам сэра Хью Нэтчбул-Хьюгесена, англійскага пасла ў Турцыі.

Аднойчы, пасля поўдня, у красавіку 1943 года, седзячы ў вестыбюлі гасцініцы «Анкара Палас», я раздумоўваў над сваім лёсам. Нечакана са змроку майго жыцця бліснула светлая думка. Я вырашыў стаць шпіёнам, вялікім шпіёнам, адчуўшы, што як непрыкметны, маўклівы і цярплівы кавас магу зрабіць многа.

Шостага кастрычніка 1943 года я вышаў з англійскага пасольства з фатаграфічнай плёнкаю ў кішэні. Увечары я задумаў прабрацца ў нямецкае пасольства. Я меў пяцьдзесят дзве здымкі, за якія рашыў запатрабаваць дваццаць тысяч фунтаў стэрлінгаў.

— У мяне ёсць магчымасці фатаграфаваць дакументы ў англійскім пасольстве. Прапаную вам плёнку са здымкамі. Усе дакументы, якія я сфатаграфаваў, адзначаны парафаю «тайна» або «цалкам тайна». За дзве плёнкі прашу дваццаць тысяч фунтаў стэрлінгаў. Калі вы прымеце маю прапанову, кожная наступная плёнка будзе каштаваць пятнаццаць тысяч фунтаў.

— Вы здурэлі! — выкрыкнуў Енке, саветнік пасольства Германіі.

— Можаце не прыняць маёй прапановы. Але адсюль недалёка другое пасольства. Там таксама някепска плацяць...

Закончылася маскоўская канферэнцыя саюзнікаў. Міністэрства замежных спраў Англіі паінфармавала пасла аб рашэннях прынятых у Маскве.

Я падрыхтаваў касцюм, у якім сэр Хью збіраўся ісці на абед. Калі сэр Хью вышаў, я пайшоў у яго пакой, адкрыў скрыначкі, выняў дакументы і паспяшыў у свой пакойчык. Хутка ўстанавіў свой фотаапарат, запаліў лямпачку над тумбачкай і зняў дакументы. Праз тры мінуты я варочаўся ўжо назад да пакоя сэр Хью з дакументамі пад палою. На маё дзіва, дзверы да пакоя былі адчынены. У мяне як бы пярун ударыў: з пакоя чуваць было голас сэра Хью. Ён гаварыў па тэлефоне!

Мяне ахапіў панічны страх, я быццам прырос да падлогі. Але тут жа ўзяў сябе ў рукі і памалу пайшоў калідорам назад. Тым часам дзверы ціха зачыніліся, і побач мяне прайшоў сэр Хью, варочаючыся ў сталоўку. Ён быў яўна раздражнены: не любіў, калі яго непакоілі ў час абеду. Я памалу ішоў калідорам, пакуль ён не знік за дзвярыма сталовай. Тады я вярнуўся назад, увайшоў у яго пакой і асцярожна паклаў дакументы на месца.

Праз дзве гадзіны я вышаў з пасольства, каб сустрэцца з Мойзішам, немцам.

— Пакажыце плёнку, — сказаў Мойзіш.

— Пакажыце грошы, — сказаў я.

І так, пад маім дыванам у пакойчыку прыбывала штораз больш грошай. Трыццаць тысяч фунтаў, сорак пяць тысяч, семдзесят пяць тысяч... Я даўно перастаў лічыць грошы, якія перадаваў мне Мойзіш.

Я раскашаваўся гульнёю з небяспекаю, фатаграфаваў усё, што трапляла пад мае рукі.

* ✲ *

У 1945 годзе амерыканская сакрэтная служба ў Аўстрыі атрымала інфармацыю, што сяляне, пражываючыя паблізу рэчкі Траун, вылаўліваюць у рацэ многа банкнотаў. Аказалася, што немцы рабілі мноства фальшывых англійскіх грошай з турэцкага палатна. Фунты стэрлінгі, якія я так старанна хаваў пад дываном, аказаліся фальшывымі. Немцы ашукалі мяне так, як я ашукаў сэра Хью. Замест багацея, я стаў бедным чалавекам.

(з замежнага друку)

# АНГІНА

Захворванне на ангіну вельмі вялікае. Хвароба выступае ў людзей дарослых і ў дзяцей. Паводле статыстыкі займае яна другое месца ў агульным захворванні. Ангіна — гэта хвароба, якая працягваецца 5—6 дзён. Пачынаецца яна болем горла, павышанай тэмпературай, болем галавы і агульным недамаганнем. Раней лічылі ангіну хваробай чыста мясцовай горла-носа. Сёння трактуем ангіну як агульную інфекцыйную хваробу з мясцовымі сімптомамі ў горле і носе. У большасці ангіна выступае ў людзей хворых на працяглае запаленне паднябенных міндалін. Вялікую ролю адыгрываюць іншыя хваробныя справы, якія з'яўляюцца прычынаю да пастаяннай інфекцыі горла і ротавай поласці, як: прухніца зубоў, запаленчыя справы бакавых ямін носа і іншыя фактары, напрыклад, гвалтоўная змена тэмпературы, спажыванне халодных напіткаў і страў. Фактарамі, якія выклікаюць ангіну, з'яўляюцца бактэрыі і вірусы. Апісваюцца выпадкі даволі вялікіх эпідэмій у школах, інтэрнатах і іншых большых зборышчах людзей. Ангіны распаўсюджваюцца кроплевай і пылкавай дарогай, а таксама праз заражэнне харчовых прадуктаў, асабліва малака і малочных вырабаў. Папярэджваць ангіну вельмі цяжка. Трэба перамагаць бактэрыйную і вірусную інфекцыю. Вялікую ролю адыгрывае прафілактыка, напрыклад, правільныя ўмовы працы і адпачынку, загартоўка, трэба займацца спортам — з мэтай агульнага ўзмацнення арганізма. Прытрымліванне санітарна-эпідэміялагічных умоў, не прыйманне да працы хворых людзей на працяглую хваробу верхніх дыхальных шляхоў да спажывецкай прамысловасці, або да гандлёвых пляцовак, дзе разводзяцца прадукты масавага спажывання, напрыклад, малака.

(ях)



## БЕЛАРУСКАЯ ССР У ФОТААБ'ЕКТЫВЕ

★

★

★

*Сцэна са спектакля В. Шэкспіра «Канец — справе вянец» у пастаноўцы Беларускага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы.*

# БЫЛО ГЭТА...

## ПАЎСТАГОДДЗЯ НАЗАД

Ішоў трэці год І-шай сусветнай вайны. Падзеі на тэатры вайны ўвайшлі ў зеніт. І вось 1 лютага 1917 г. Германія яшчэ больш напружвае становішча. Яна аб'яўляе неабмежаваную падводную вайну. І цешыцца вынікамі: агульны танаж суднаў Антанты затопленых у лютым складаў 781,5 тыс (у той час, як за ўвесь 1916 г. танаж затопленых суднаў складаў 1125 тыс.), у сакавіку — 885 тыс., у красавіку — 1091 тыс. Звыш паловы гэтага танажу прыналежала Англіі. Становішча яе стала небяспечным. Адмірал Джэліка заявіў, што калі тэмп падводнай вайны не зменіцца, то граніца вынослівасці Англіі будзе асягнута да 1 лістапада 1917 г. Краіны Антанты прынялі шэраг энергічных захадаў: узброілі гандлёвыя параходы, стварылі сістэму іх суправаджэння, паставілі мінныя і сеткавыя загароды. Баявая эфектыўнасць нямецкіх падводных лодак рэзка ўпала.

Вось што гаворыць аб гэтай вайне адзін з удзельнікаў яе, тадышні камандзір нямецкай падводнай лодкі, потым гітлераўскі адмірал, К. Дэніц: «Падводная лодка атакавала канвой у адзіночку. Калі камандзір меў моцныя нервы, атакі паўтараліся на працягу некалькіх сутак, пакуль ён і яго падначаленыя не выдыхаліся канчаткова. І нават, калі падводнай лодцы ўдавалася затапіць некалькі суднаў, лік яе ахвяраў складаў вельмі нязначны працэнт ад усяго складу канвоя. Канвой жа, нягледзячы на гэтыя атакі, працягваў ісці па прызначэнню...

...Значыць, трэба было зрабіць так, каб супраць вялікіх канвояў дзейнічаў магчыма вялікі лік падводных лодак. З такімі думкамі я апынуўся ў англійскім палоне» — з сумам успамінае Дэніц.

Адзначым, гэтыя свае думкі ажыццявіў ён у час II сусветнай вайны, калі камандаваў гітлераўскім флотам.

ювэ

## Народны Каляндар

На Грамніцы палавіна зіміцы.

Якая пагода на Грамніцы, такая і вясна.

На Трыфона зорна — вясна позняя.




Праз дваццаць мінут Вольскі вышаў са школы і хутка накіраваўся да казармаў. Было позна ўжо. Праз некалькі мінут заканчваўся тэрмін дзеяння запіскі аб звальненні. Капітан Свабода пачаў коса паглядаць на яго частыя наведванні «археолагаў». Спазненне ён, безумоўна, выкарыстаў бы, як прычыну адмовіць Вольскаму ў звальненнях за межы казармаў.

Неўзабаве Вольскі дабраўся да развілкі дарогі. Дарога ўправа вяла да казармы. Раптам ён заўважыў цень, які прабег паміж агароджамі. «Сабака?» — падумаў ён. Спыніўся, пільна разглядаючы кусты, якія ледзь варушыліся. Падышоў бліжэй. Яму быццам пачулася нейкае сапенне. Вольскі пачакаў мінуту, але было ціха. Ён махнуў рукой і пайшоў далей. Праз тры мінуты ён уручаў дзяжурнаму запіску аб звальненні.

Праз некаторы час кусты ля агароджы паціхеньку рассунуліся. «Цень» высунуў галаву, агледзеўся навокал і пераскочыў праз агароджу, а потым хутка-хутка рушыў у напрамку афіцэрскага інтэрната, які знаходзіўся на левым баку дарогі.

* ✲ *

Вольскі пачынае разумець, што дапусціў сур'ёзную памылку, не звязаўшыся своечасова з Вагам — афіцэрам унутранай вайсковай службы. Аднак спроба Вольскага наладзіць кантакт з Вагам церпіць няўдачу, бо Вагі няма на тэрыторыі палка, а сам Вольскі таксама нікуды не можа адысціся — яго назначаюць дзяжурным па палку. У час дзяжурства Вольскі і яго памочнік па дзяжурству падпаручык Парайскі высвятляюць, што месцы размяшчэння ракетных установак, якія так старанна ўтойваюцца ад курсантаў у час заняткаў, можна, з-за недагляду адміністрацыі палка, лёгка ўстанавіць па новай кнізе дзяжурстваў. Трывога Вольскага ўзрастае яшчэ і таму, што на наступную змену дзяжурнымі па палку назначаны Кулеша і Качмарэк, тыя самыя курсанты, якія ўжо даўно знаходзяцца на падазрэнні ў Вольскага. У цяжкай абстаноўцы, якая склалася, Вольскі прымае адзіна магчымае рашэнне. Ён вырывае з «Кантрольнай кнігі» лісток з назвамі пунктаў, дзе размешчаны ракетныя ўстаноўкі, і ўпісвае ў кнігу іншыя назвы. За гэтым заняткам яго і застае паручнік Вага, які нечакана ўвайшоў у пакой дзяжурнага. Ён прад'яўляе разгубленаму Вольскаму абвінавачанне ў шпіянажы і арыштоўвае яго. Вольскі на допыце расказвае, хто ён такі і з якой мэтай прысланы ў полк. Паручнік Вага сумняваецца. Да таго, як органы бяспекі не адкажуць на яго запытанне адносна асобы Вольскага, ён не мае намеру вызваліць яго з-пад арышту. А ў гэты час Качмарэк і Кулеша прымаюць дзяжурства...

Дзяжурства заканчвалася. Падпаручык Парайскі, змардаваны начным нясеннем службы, узрадавана вітаў афіцэраў, якія ўваходзілі.

— Ну, нарэшце, змена, — сказаў ён, — ледзь-ледзь дачакаўся.

— А дзе Вольскі? — запытаў падпаручык Кулеша.

— Вы сабе не ўяўляеце, колькі ў мяне было з ім клопатаў, — адказаў Парайскі. — Ён уначы захварэў і прыйшлося выклікаць хуткую дапамогу.

— Страўнік? — запытаў падпаручык Качмарэк.

— Відаць. Яго адвезлі ў шпіталь.

Парайскі пачаў здачу дзяжурства.

— А што гэта за кніга? — запытаў адзін з афіцэраў.

— «Кантрольная кніга выездаў» заведзена толькі ўчора, — растлумачыў Парайскі. — Неабходна туды заносіць усе выезды аўтамашын.

— І ў тым выпадку, калі выязджаюць на заняткі? — запытаў адзін з афіцэраў.

